


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

15 сакавіка 2002 года

№ 11 (360)

Выходзіць па пятніцах




## Навіны рэгіёна

### Сталі чэмпіёнамі Беларусі

МАЛАДЗЕЧНА. **Аляксандр Кароль** з Алёхнавічаў і **Аляксандр Панцюхоў** з Чысці сталі чэмпіёнамі Беларусі па тайландскім боксе. А. Кароль выступаў у катэгорыі да 60 кг, А. Панцюхоў – да 81 кг. Абодва трапілі ў лік удзельнікаў чэмпіянату Еўропы, які адбудзецца восенню.

Спаборніцтвы праходзілі 8-10 сакавіка ў мінскім спартыўным комплексе "Уручча". Маладзечанцы **Максім Грывасевіч** і **Эдуард Вазновіч** сталі трэцімі ў вагавых катэгорыях да 48 кг і звыш 91 кг адпаведна.

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**

### Паслясвяточныя ахвяры

МЯДЗЕЛ. 9 сакавіка ў вёсцы Канстанцінава на Свіршчыне гарэў дом. Загінулі гаспадар і жыхар Маладзечна. Прычына – неасцярожнасць пры курэнні.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

### «Опель» у падарунак

ВАЛОЖЫН. 9 сакавіка Івянецкі дзіцячы дом-інтэрнат наведала **Гертруда Весель**, якая прадстаўляла дабрачынны фонд нямецкага горада Бона. Немцы прыехалі ў Івянец на 9-месным мікрааўтобусе "Опель", які пакінулі ў падарунак дому-інтэрнату. Таксама ўсе дзеці атрымалі салодкія падарункі, а 30 хлопчыкаў і дзяўчынак – запрашэнні на летняе аздараўленне ў Германіі. Дадому нямецкая дэлегацыя адправілася 13 сакавіка.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

### Тысячны ўладальнік

МЯДЗЕЛ. Уладальнікаў пластыкавых картак ад «Беларусбанка» на Мядзельшчыне больш, чым у любым раёне Мінскай вобласці. З'явіўся ўжо і тысячны ўладальнік. Ім стала выхавальнік дзіцячага садка №4 райцэнтра **Тацццяна Крывенькая**. Ад банка ўручылі ёй кветкі і шыкоўны штодзённік. А ў бліжэйшы час мяркуюць устанавіць яшчэ два тэрміналы для абслугоўвання кліентаў з карткамі ў аддзяленнях у Мядзеле і Купе.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

### Крыты рынак у Вілейцы

ВІЛЕЙКА. Першы ў горадзе крыты рынак пачаў работу на мінулым тыдні ў памяшканні Дома быту.

Як сказаў галоўны інжынер Вілейскага раённага камбіната бытавога абслугоўвання **Віктар Кукушкін**, у сакавіку ўвялі першую чаргу рынку – каля 15 гандлёвых месцаў. Усяго плануецца зрабіць больш за 60 месцаў, якія здадуць праз месяц. Рынак працуе штодзённа, размешчаны на двух паверхах. На першым гандлююць харчовымі, а на другім – прамысловымі таварамі. За кошт прыбытку ад дзейнасці рынку РКБА плануе кампенсаваць выдаткі на ўтрыманне будынка Дома быту.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

### Тэлефонная дыверсія

МАЛАДЗЕЧНА. У ноч з 8 на 9 сакавіка невядомыя пашкодзілі будынкі АТС у Гарадку і Насілаве.

Злачынцы ўкралі кантакты, якія ўтрымлівалі каштоўныя металы. У выніку выйшла са строю 1 стацыянарная шафа тэлефоннай сувязі ў Гарадку і 3 – у Насілаве. У абедзвюх АТС уваходныя дзверы абсталяваныя сігналізацыяй, а вокны – металічнымі кратамі.

Агульныя страты Маладзечанскага раённага вузла электрасувязі склалі 12,2 мільёна рублёў. Узбуджаная крымінальная справа, вядзецца следства.

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**



## Надвор'е на выхадныя

**Субота, 16 сакавіка**

**Мінск** -7°С (уначы) 1°С (удзень)



**Вільня** -7°С (уначы) 2°С (удзень)



**Нядзеля, 17 сакавіка**

**Мінск** -7°С (уначы) 3°С (удзень)



**Вільня** -7°С (уначы) 3°С (удзень)



# Мокры Сухі завулак

**МАЛАДЗЕЧНА. Радаваліся мінулай восенню жыхары 1-га Сухога завулка, калі туды правялі доўгачаканы газ. Па 800-900 долараў заплацілі.**

Праблемы пачаліся адразу пасля гэтага. Не з газам, там пакуль усё добра, а з дарогай. Па вуліцы выкапалі траншэю, паклалі цэнтральную трубу і засыпалі. Але дарога пасля першых дажджоў ператварылася ў балота. Расказваюць, машыны "засядалі" на некалькі дзён.

На гэтым тыдні ў горадзе трывала ўсталявалася вясенняе надвор'е: падсохла зямля, знікаюць лужыны. Але толькі не ў гэтым завулку, які па іроніі лёсу называецца Сухім. Там лепш бы падышлі гумовыя боты.

– А так і хадзілі, – расказвае жыхар Сухога **Ігар Макараў**. Добра, што тыдзень запар стаіць сухое надвор'е. А то людзям хадзіць не было дзе – лужыны і гразь. За платы трымаліся і ішлі. Інакш ніяк.

Выхад са становішча адзін – трэба падсыпаць дарогу. Так і робяць. Хто як можа: бітай цэглай, друзам. Адзін тры машыны друзу прывёз. За свой кошт. Заплаціў па 20 тысяч рублёў за кожную.

Сусед Ігара **Аляксандр Сергіевіч**:

– Сюды ж не заехаць. На мінулым тыдні выклікаў для дачкі "хуткую". Машына спынілася ля паварота (на вуліцы Сухой – гэта недзе дзвесце метраў ад дома Аляксандра). Добра, што урач нармальны трапіўся, пешшу дайшоў. А то іншы мог плюнуць і завярнуць назад.

Бацька Ігара **Валерый Макараў**:

– І нікому не паскардзішся. Званілі ў гарвыканкам. Рэальнай дапамогі не абяцаюць – няма грошай. Помню, у 70-я гады мы рабілі гэтую дарогу. З падачы гарвыканкома прыехалі машыны з пяском, жыхары завулка скінуліся па тры рублі на салярку, скінулі пясок, разраўнялі, і зрабілі дарогу – у тапачках можна было хадзіць. А цяпер размыюць дажджы зямлю, і да трубы з газам вільгаць дойдзе.

**Юрый КАРПІЦКІ.**




Маладзечна, 1-ы Сухі завулак, 13 сакавіка. Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

## Экспрэс-апытанне

# Калі адзначаецца Дзень Канстытуцыі?



**Ігар Іванскі, навучэнец палітэхнікума:**

– 7-га, але ж месяц не памятаю. Канстытуцыю чытаў, таму што ўсе павінны ведаць свае правы. Было б добра, калі б гэта быў выхадны дзень. Якніяк, дзяржаўнае свята.



**Вера Шатроўская, кур'ер:**

– 25 сакавіка, а прынялі, па-мойму, у 1918 годзе. Я яе ніколі і не чытала, таму што не бачу нічога цікавага. Няхай гэтым займаюцца дзяржаўныя служачыя. У нас і так шмат святаў, яшчэ гэтага не хапала.



**Анатоль Уласевіч, рабочы:**

Напэўна, восенню, недзе ў кастрычніку. Увогуле, канстытуцыя канстытуцыяй, а ў жыцці не ўсе законы дзейнічаюць. Хаця, гэта асноўны закон дзяржавы, таму ім павінны кіравацца ўсе ўстановы.



**Ірына Марозава, псіхолаг:**

– 15 сакавіка. Мы святкуем два Дні Канстытуцыі: расійскай, што ў снежні, і беларускай. Дрэнна, што ў нас гэта рабочы дзень. Абавязкова павінен быць выхадны.



**Наталля Вальковіч, студэнтка БДУ:**

– Нават і не ведаю. Да свайго сораму, не скажу ні год, ні дату. Я чытала Канстытуцыю, але ж там поўная блытаніна. Мяркую, што гэта не свята, таму павінен быць рабочы дзень.



**Валерый Фядотаў, інструктар па баявой падрыхтоўцы аддзела аховы:**

– 15 сакавіка, а прынялі недзе ў 1996 годзе. Канстытуцыю я не чытаў, патрэбнасці не было. Добра, што гэта не святочны дзень. Іх і так хапае, але ж можна было б чым-небудзь замяніць.

**Апытанне падрыхтавалі Вольга ПІЛІПЕНКА і Тацццяна СЕМАШКЕВІЧ.**

## Фарбы роднай зямлі

**АШМЯНЫ. На мінулым тыдні ў раённым краязнаўчым музеі імя Ф. Багушэвіча пачала працаваць выстаўка народнай творчасці "Фарбы роднай зямлі".**

На выстаўцы прадстаўлены работы з саломы **Леанарды Казіміравай** і яе вучняў аб Белавежскай пушчы, вышыўка крыжыкам 19-гадовай **Тацanswer Казлоўскай**, **Раісы Зайцавай**, **Уладзіславы Маркоўскай** і **Веры Саўчынкі**. Разьба па дрэве **Івана Балкоўскага**. Ёсць работы і з фонду музея – куфэрак, сплецены з лазы з вырабамі ткацтва. Выстаўка будзе доўжыцца да красавіка.

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**

## Перапіска

**Непадалёку ад Камянца (Брэсцкая вобласць), дзе знаходзіцца гістарычны помнік Белая Вежа, сярод лесу прытуліўся невялікі пасёлак Прыазерскі. У ім пачатковая школа.**

Вучні чулі і чыталі пра найвялікшае возера ў Беларусі – Нарач. У іх узнікла думка напісаць пісьмы ў Нарачанскую школу, каб больш даведацца пра Нарач, завязаць перапіску.

У школе Купы з цікавасцю чыталі пісьмы незнаёмых хлопчыкаў і дзяўчынак з Камянеччыны. Вучні 2 "А" класа адразу ж напісалі пра сваю школу, возера, захапленні, выказалі спадзяванні, што ў будучым, магчыма, адбудзецца сустрэча.

Разам з пісьмамі ў бандэролі нарачанскія дзеці выслалі буклеты пра Нарачанскі Нацыянальны парк, альбом "Нарачанскія ваколіцы".

**Міхась ЧАРНЯЎСКІ.**

## Нарачанскія прадукты трапілі на тэлебачанне

**МЯДЗЕЛ. Па тэлеканалах пачалі дэманстраваць ролікі, што рэкламуюць малочныя прадукты з біфідафлорай. З прадпрыемстваў рэспублікі найбольш іх вырабляюць на ААТ «Нарачанскі маласырзавод».**

Яшчэ чатыры гады таму пачалі выпуск «Біфілайфу», потым дадаліся смятана «Машутка» і малако «Расінка», а ў канцы мінулага года асвоілі йагурт «Дружок». Усе ўтрымліваюць 5 відаў біфідабактэрый і таму карысныя для здароўя. На заводзе адзначылі, што выпуск такой прадукцыі – справа хоць і прыбытковая, але клопатная: вымагае павышаных санітарных патрабаванняў пры вытворчасці. Займаюцца гэтым самыя адказныя і добрасумленныя людзі.

Біфідапрадукты завод выпускае ў супрацоўніцтве з мінскім прадпрыемствам «Гест». Яно распрацавала тэхналогію, пастаўляе закваску, займаецца і маркетынгам.

Прадукты разыходзяцца найбольш у Мінску, крыху па нарачанскіх здраўніцах і ў раёне.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

# Гульня па дарослых правілах

**МАЛАДЗЕЧНА. 4 сакавіка ў цэнтры пазашкольнай работы прайшла гарадская гульня "Брэйн-рынг" на тэму "Бяспека дарожнага руху". Бралі ўдзел вучні 5-х і 6-х класаў усіх школ горада, акрамя СШ №2. У каманду уваходзіла па 4 чалавекі, дазвалялася браць з сабой 5 балельшчыкаў.**

Напачатку гульні выступілі пераможцы гарадскога злёту юных інспектараў дарожнага руху ў 2001 года – агітбрыгада гімназіі. Яны нагадалі, на які колер святлафора трэба пераходзіць вуліцу і выканалі танец пад музыку адной з песень Брытні Спірс.

Потым вядучы Аляксандр Трыпуцька задаў камандам 40 пытанняў. За кожны правільны адказ налічвалася па 1 бале, за дапаўненне – 0,5. Але пасля прыходу вядучага спецыяліста аддзела адукацыі Анатоля Кацельнікава вырашылі ставіць мінус бал за няправільныя адказы, каб уціхамірыць залу. Калі спачатку пыталіся: "Хто такі вадзіцель?", "Што такое веласіпед, шлагбаум?", то потым пайшлі пытанні пра тармазны шлях аўтамабіля, вонкавую герметычную сістэму сілкавання, хуткасці ў горадзе і вёсках. Як высветлілася, пытанні для вучняў узялі з білетаў, па якіх здаюць экзамены ў ДАІ, а не з даведнікаў для сярэдніх школ.

– Правілы для ўсіх аднолькавыя, нягледзячы на тое, вучань ты, ці дарослы, – лічыць інспектар па адміністрацыйнай практыцы ДАІ Уладзімір Лукашык.

У настаўнікаў іншыя меркаванні.

**Элеанора Аквіт**, беларуская гімназія:

– Пытанні вельмі складаныя. Мы рыхтаваліся па падручніках для школ. А тут трэба адказваць дакладнымі тэрмінамі, ды яшчэ і фізіку ведаць, якая вывучаецца толькі з сёмага класа. Я лічу, што галоўнае, як вучань можа патлумачыць розныя сітуацыі сваімі словамі.

**Яўгеній Сердзюкоў**, САШМ:

– Вельмі мала пытанняў пра пешаходаў і пра тое, як ездзіць на веласіпедзе ў горадзе ці за яго межамі.

Але ж вучні ўсё адно не разгубіліся і правільна адказвалі на пытанні іншых конкурсаў. Нават у апошнім конкурсе №4 "Дарожныя знакі" трэба было вызначыць не толькі што абазначае прапанаваны знак, але да якой групы ён адносіцца і як называецца. Усе тры каманды, якія выйшлі ў фінал (СШ №№3, 8, 11), зрабілі аднолькавую памылку, калі вызначылі знак няроўнай дарогі як міліцыянера, які спіць.

У выніку перамагла каманда СШ №11. Другімі сталі вучні СШ №3, трэцімі – СШ №8.

Яны атрымалі плееры з гарантыяй на 1 месяц, віншавальныя паштоўкі ад ДАІ і ганаровыя граматы.

– Я вам нават зайздрошчу. У вашым узросце ў мяне такога не было. Сёння гучалі простыя пытанні, але ж усе яны – з жыцця. Таму будзьце ўважлівыя на дарогах і навучыце гэтаму сваіх сяброў, – сказаў напрыканцы Уладзімір Лукашык.

А вучні СШ №6 ужо пачынаюць рыхтавацца да спаборніцтваў у наступным годзе, якія дапамогуць ім здаць на правы ў будучым. Іх кіраўнік і настаўнік фізвыхавання Уладзімір Цівуновіч лічыць: "Не той генерал, які перамагае ва ўсіх бітвах, а той, хто атрымаў шышкі і перамагае".

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**

# Свята вясны

**МАЛАДЗЕЧНА. Сакавік дзіцячая мастацкая школа сустрэла выстаўкай "Свята вясны". Яна прысвечаная 100-годдзю з дня нараджэння беларускай і польскай мастачкі Ядвігі Раздзялоўскай. Прадстаўлены работы мастакоў і выкладчыкаў горада, якія калі-небудзь сустракаліся з мастачкай, а таксама яе вучняў.**



Фота Вольгі ПІЛІПЕНКІ.

**Нацюрморт з цюльпанамі. Юрый Церабун.**

Як расказаў мастак **Васіль Лазоўскі**, гэтая выстаўка адлюстроўвае адраджэнне жыцця пасля зімы. Спачатку планавалася выстаўляць толькі нацюрморты, таму што ў гэтым жанры працавала ў свае апошнія гады Ядвіга Раздзялоўская. Але ж потым некаторым мастакам далі магчымасць выказаць сябе і ў іншых жанрах. Так, да нацюрмортаў **Івана Смалякова**, **Ірыны Ханеўскай**, **Аляксандра Пясецкага**, **Рыгора Мяжуева**, **Уладзіміра Цясленкі** гарманічна далучылася кераміка **Розы Панфілавай**, пейзажы **Тацяны Бараноўскай** і іншых.

Выстаўка будзе доўжыцца да красавіка.

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**

# Ідзе падпіска на 2-гі квартал

**Індывідуальная падпіска на 1 месяц каштуе 1035 рублёў, на тры месяцы – 3105, ведамасная – 4191 рубель, на тры месяцы – 12573. Заставайцеся з намі ва ўсе часы!**

Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь

АБАНЕМЕНТ НА ГАЗЕТУ

Рэгіянальная газета

63212 (63369)
(індэкс выдання)

Колькасць

На 2002 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды ______ (індэкс) ______ (адрас)

Каму ______ (прозвішча, ініцыялы)

---

ПВ | месца | літара

63212 (63369)
(індэкс выдання)

ДАСТАВАЧНАЯ КАРТАЧКА НА ГАЗЕТУ

Рэгіянальная газета

Кошт | падпіскі | Колькасць

На 2002 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды ______ (індэкс) ______ (адрас)

Каму ______ (прозвішча, ініцыялы)

■ ТЭАТР

## Аляксей Якімовіч «Добры змей»

**(лясная казка)**

Стваральнікі спектакля Мінскага абласнога драматычнага тэатра запрашаюць гледача ў незвычайную лясную казку, дзе яго чакае сустрэча з ведзьмай Халерай і яе дачкой Таклюсяй, якія хочуць разлучыць маладых і закаханых Насцечку і Лявонку. Гэта ім амаль што ўдаецца, але на дапмогу прыходзіць Добры Змей у выкананні Алега Чэчанева.

Надзвычай яскравыя вобразы ствараюць Аляксандр Пашкевіч у ролі Таклюсі, Ірына Карчэўская ў ролі Насцечкі, па сутнасці, першай сваёй самастойнай ролі ў жыцці, Эмілія Ларыёнава ў ролі ведзьмы Халеры і Андрэй Барткевіч у ролі Лявонкі.

У спектаклі шмат песень, словы да якіх напісала Галіна Булыка, а музыку – Алена Атрашкевіч.

Рэжысёр – Венядзікт Растрыжэнкаў, мастак – Яўген Воўкаў.

**Мікола ШАБОВІЧ.**

**Жыхары Вілейкі змогуць ацаніць пастаноўку Венядзікта Растрыжэнкава па п'есе Аляксея Якімовіча «Добры змей». Спектакль адбудзецца 20 сакавіка ў Доме культуры ў 10.00.**



Фота з архіва МАДТ

**Пастаноўка Мінскага абласнога драматычнага тэатра "Добры змей". Аляксандр Пашкевіч у ролі Таклюсі.**

## Гастролі драмтэатра

У гэтым месяцы гастролі Мінскага абласнога драматычнага тэатра пройдуць у трох гарадах. У Мінску 19 сакавіка на сцэне Дома культуры тэкстыльшчыкаў пакажуць казку-фантазію **Валянціна Афоніна** "Мымрык".

20 сакавіка ў вілейскім Доме культуры юныя гледачы пазнаёмяцца зляснои казкай **Аляксея Якімовіча** "Добры змей".

Добры падарунак падрыхтавалі артысты тэатра для дзяцей. У Іўі 21 сакавіка яны ўбачаць музычную казку-трылер "Буслік супраць Кадука" па п'есе лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь **Георгія Марчука**, у пастаноўцы артыста тэатра **Яўгена Іўковіча**.

І завершацца сакавіцкія гастролі Мінскага абласнога драматычнага тэатра там жа, у Іўі, паказам лірычнай меладрамы **А. Дударава** "Вечар". Пачатак спектакляў для дзяцей у 11-00, для дарослых – у 19-00.

**Барыс ВАВІЛАЎ.**

## Георгій Марчук «Буслік супраць Кадука»

**(музычная казка-трылер)**

Музычную казку-трылер Г. Марчука паставіў акцёр Мінскага абласнога драматычнага тэатра Я. Іўковіч пад кіраўніцтвам В. Растрыжэнкава. Спектакль зроблены на аснове беларускага фальклору, ён узбагачае веды дзяцей, вучыць іх адчуць непаўторнасць роднай Беларусі, любіць яе. Добры сімвал Айчыны Буслік выратоўвае зямлю і яе добрых людзей ад злога чарадзея Кадука. У спектаклі гучыць шмат меладычнай музыкі Алены Атрашкевіч і лірычныя вершы Міколы Шабовіча. Найбольш цікавыя вобразы ствараюць Алена Рахмангулава (добрая беларуская дзяўчынка Ганначка) і Віктар Багушэвіч (хітры пачварны Кадук). У арыгінале казка Георгія Марчука мае назу "Чужое багацце", але пастаноўшчыкі ўдала абвастрылі канфлікт, зрабілі яго больш дыдактычным і вынеслі ў назву спектакля, што, улічваючы аўдыторыю, яшчэ больш паглыбляе яго выхаваўчы эфект.

**Мікола ШАБОВІЧ.**

# Радашкавічы – за большы хлебны асартымент

**МАЛАДЗЕЧНА. У вяскоўцаў раёна амаль няма альтэрнатывы, які хлеб купляць: ім завозяць вырабы хлебазавода з Радашкавічаў.**

Як сказаў старшыня пасялковага савета **Сяргей Уласаў**, большасць скаргаў вяскоўцаў на якасць хлеба ідзе ад таго, што туды часцяком чамусьці вязуць не самыя свежыя вырабы. У саміх Радашкавічах ёсць два асноўныя пункты продажу хлеба. Гэта магазін райспажыўтаварыства "Гарачы хлеб", дзе гандлююць мясцовай прадукцыяй, і крама, куды тры разы на тыдзень завозяць мінскі хлеб.

Амаль год таму на сесіі райвыканкома вырашалі, што рабіць з радашкоўскім хлебазаводам. Было два варыянты: перавезці яго ў іншы раён рэспублікі, дзе няма сваёй вытворчасці, ці рэканструяваць. Выбралі другі варыянт. Калі б хлебазавод перавезлі, то ў вёскі вазілі б хлеб маладзечанскага хлебазавода, які па якасці, кошце і асартыменце выгадна адрозніваецца ад радашкоўскага. У выніку ў вёскі возяць хлеб з Радашкавіч, на маладзечанскім хлебазаводзе знізіліся аб'ёмы вытворчасці, а канкурэнцыі на вёсцы няма, бо маладзечанцы не маюць ліцэнзіі на гандаль там.

Мы спыталіся ў жыхароў Радашкавіч, ці задаволеныя яны якасцю хлеба.

Першы пункт – "Гарачы хлеб". Там быў "Хлеб сталовы" (0,8 кг) – 316 рублёў, "Хлеб заварны" ва ўпакоўцы (0,6 кг) – 442 рублі. Прадаўшчыца **Вольга**, якая не захацела назваць сваё прозвішча, гаворыць, што мінскі хлеб, які гандлююць у суседняй краме, бяруць лепш, бо ён лепшы па якасці. Але ёсць збыт і ў мясцовага хлеба. Бо ім гандлююць кожны дзень. Завозяць яго і раніцай, і пасля абеду, таму заўсёды можна купіць гарачы хлеб. У сярэднім штодня заказваюць каля 140 буханак.



Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

**Радашковічы. Магазін «Гарачы хлеб», 12 сакавіка.**

Зайшоў пенсіянер. Пытаюся, як мясцовы хлеб.

– Па-рознаму бывае: калі нармальны хлеб, а калі і горшы. Але цяпер можна мірыцца.

Пераходжу ў краму, куды завозяць мінскі хлеб. Прадаўшчыца **Наталля Якімовіч**:

– У панядзелак, сераду і пятніцу пасля абеда завозім прыкладна па 200 буханак хлеба і батона з мінскага хлебазавода. Кошт – 361 і 261 рубель адпаведна. Разбіраюць за адзін вечар.

– Як вам мясцовы хлеб?

– Жудасны. Таму і разбіраюць так хутка мінскі. Лічу, што мясцовому хлебу трэба альтэрнатыва, але калі завозіць хлеб, у прадукцыі хлебазавода няма шанцаў. Купляю я толькі мінскі хлеб.

Заходзіць пенсіянерка **Валянціна Мельнік**. Пытаецца, ці ёсць хлеб. Быў аўторак, таму хлеба не было.

– Я мала хачу. Жывём не ў дастатку. Быў бы хлеб, і добра. Наш хлеб нармальны, асабліва, калі гарачы.

– Як лічыце, будзе лепш, калі завезці сюды хлеб з Мінска ці Маладзечна?

– Калі будзе больш іншага хлеба, то не будуць браць мясцовы. А куды нашым людзям, якія працуюць на заводзе, дзецца? Пайду ў суседні магазін, там заўсёды ёсць хлеб. Вы там перадайце, каб нашую пякарню не закрывалі.

Наступны адрас – пасялковы савет. Старшыня Сяргей Уласаў:

– Пасля рэканструкцыі жыхары перасталі скардзіцца на якасць мясцовага хлеба. Але лічу, што для ўсіх будзе лепш, калі сюды завозіць хлеб з Маладзечна. Будзе большы выбар. Няхай хлебазаводы паміж сабой свабодна канкуруюць, змагаюцца за пакупніка шляхам паляпшэння якасці, зняжэння цаны. Гэта падштурхне мясцовы хлебазавод папрацаваць над якасцю хлеба. Я, калі бываю ў Маладзечне, то вязу адтуль батоны. Хлеб купляю тут.

На першым паверсе чую жаночы смех за дзвярыма з шыльдай "Бухгалтэрыя". Жанчына, якая назвалася нашчальніцай пасялковага савета:

– Нічога дзіўнага, што вяскоўцы скардзяцца на якасць радашкоўскага хлеба. Ён ужо на другі дзень робіцца нясмачны. Але асабіста я не люблю і маладзечанскі хлеб. Батоны там смачныя, лепшыя за мінскія. Але, лічу, няхай будзе канкурэнцыя – гэта для нас лепш. А ў кожнага густы розныя, ды і сілу прывычкі трэба ўлічваць. Вось, напрыклад, калі жыла ў Жлобіне, любіла той хлеб. Цяпер, калі еду туды, бяру з сабой мінскі, бо жлобінскі для мяне ўжо не той.

Ля крамы з мінскім хлебам стаіць мужчына з каляскай – **Канстанцін Ганчаронак**, ён чакае жонку **Наталлю**.

– Мы абодва прыехалі з Мінска. У нас густы розныя: я люблю мінскі хлеб, а жонка – мясцовую "цаглінку".

Прыходзіць Наталля.

– Які хлеб вам падабаецца?

– Вядома, мінскі. Але яго часцяком не дакупіцца, таму купляем і мясцовы. Я раней працавала ў хлебным магазіне. Павезлі мы поўную машыну радашкоўскага хлеба ў Ракаў. Разабралі за 2 гадзіны. Не разумею, як людзі гэты хлеб елі?

**Юрый КАРПІЦКІ.**

## Курсы валют НБ РБ

| | 6 сакавіка | 14 сакавіка |
|---|---|---|
| Долар | 1675,00 руб. | **1679,00** руб. |
| ЕЎРА | 1454,74 руб. | **1469,71** руб. |
| Злоты | 402,02 руб. | **403,36** руб. |
| Літ | 421,22 руб. | **425,70** руб. |
| Расійскі рубель | 54,04 руб. | **54,03** руб. |

**"Вулічныя" курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 1670 – 1690 руб. | **1680 – 1700** руб. |

## Маладзечна. Цэны ў сераду на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 6.03 | 13.03 |
|---|---|---|
| **Курыныя кумпячкі**, 1 кг | 2600 | **2600** |
| **Кілбаса с/вялен.**, 1 кг | 8900 | **8900** |
| **Сасіскі**, 1 кг | 3950 | **3950** |
| **Селядзец**, 1 кг | 2200 | **2200** |
| **Рыс**, 1 кг | 630 | **630** |
| **Грэчка**, 1 кг | 500 | **530** |
| **Цукар**, 1 кг | 730 | **730** |
| **Алей**, 1 л | 1500 | **1500** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 1000 | **1000** |
| **Маянэз**, 200 г | 320 | **370** |
| **Кава "Пеле"**, 100 г | 1800 | **1800** |
| **Шпроты**, бляшанка 160 г | 600 | **600** |
| **Соус там. «Мінскі»**, 0,5 л | 600 | **650** |
| **Цыбуля рэпчатая**, 1 кг | 650 | **800** |
| **Капуста**, 1 кг | 650 | **650** |
| **Лімоны**, 1 кг | 1800 | **1900** |
| **Апельсіны**, 1 кг | 1700 | **1700** |
| **Сялянскія прадукты** | | |
| **Смятана**, 1 л | 1400 | **1400** |
| **Масла**, 1 кг | 3400 | **3400** |
| **Тварог**, 1 кг | 1500 | **1500** |
| **Малако**, 1,5 л | 600 | **600** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 1500 | **1200** |
| **Бульба**, 1 вядро | 2600 | **2800** |
| **Морква**, 1 кг | 800 | **800** |
| **Яблыкі**, 1 кг | 550 | **500** |

**«РГ»-СТАТЫСТЫКА**

## Беспрацоўе ў рэгіёне

| | Колькасць беспрацоўных | Узровень беспрацоўя |
|---|---|---|
| Маладзечна | 1628 (+31) чал. | 2,68% |
| Маладзечанскі раён | 341 (+24) чал. | 1,37% |
| Астравецкі раён | 406 (+32) чал. | 2,78% |
| Ашмянскі раён | 164 (-2) чал. | 0,9% |
| Валожынскі раён | 79 (-) чал. | 0,89% |
| Вілейскі раён | 585 (-) чал. | 1,82% |
| Мядзельскі раён | 301 (+1) чал. | 1,6% |
| Смаргонскі раён | 1267 (+43) чал. | 3,61% |

У дужках паказаныя змяненні ў параўнанні з лютым.

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**

# Патрабуюцца экстранныя меры

**МАЛАДЗЕЧНА. 5 кіраўнікоў прамысловых дзяржпрадпрыемстваў горада праз месяц могуць пазбавіцца сваіх пасад. Гарвыканкам папярэдзіў першых асоб "Маладзечанскага аўтатэхсервіса", "Гаранта", "Маладзечнаэнергарамонта", завода металаканструкцый і станказавода. Калі па выніках работы за першы квартал аб'ёмы вытворчасці на прадпрыемствах акажуцца ніжэйшымі за леташнія, то будзе разглядацца пытанне аб адпаведнасці кіраўнікоў займаемым пасадам.**

Так запісана ў рашэнні выканкома, якое прынялі на пазачарговым пасяджэнні 11 сакавіка. Разглядалася адно пытанне: аб выніках фінансава-гаспадарчай дзейнасці суб'ектаў гаспадарання за 2001 год і студзень-люты 2002 года.

Старшыня гарвыканкома **Мікалай Чурсін**:

– Сёлета склалася напружаная сітуацыя з напаўняльнасцю бюджэту. Яна ідзе не так, як у праектах. 9 прадпрыемстваў працуюць блага. Ад іх работы залежыць дабрабыт гараджан. Гэта і зарплата, і рабочыя месцы, і падаткі. Спакойнага жыцця, якое было ў большасці прадпрыемстваў да 2002 года, не будзе.

За 2 месяцы года рост аб'ёмаў прамысловай вытворчасці ў горадзе ў параўнанні з леташнім перыядам склаў 101,5%. Па плане трэба 112,5%. У лютым спрацавалі горш у параўнанні з леташнім паказчыкам – 93,8%.

Прычынай спаду Мікалай Чурсін лічыць недастатковую работу з боку міністэрстваў:

– З іх ніхто не патрабуе адказу. Калі б міністэрствы ці канцэрны адказвалі за работу сваіх прадпрыемстваў, то цяпер было б лепш. Не скажу, што было б ідэальна, але дакладна, што лепш. Гляньце на міністэрства архітэктуры і горадабудаўніцтва: адно гарадское прадпрыемства ледзь дыхае, другое, а цяпер і ЗМК нырнуў – няма рэакцыі. Затое без рашэння міністэрстваў мы не можам зняць дырэктара. Гэта не наша мэта – знімаць. Няхай працуе і выконвае запланаваныя паказчыкі. Як – гэта не наша справа.

Больш скажу. Лічу, што міністр прамысловасці асабіста вінаваты ў развале "Спадарожніка". Калі паглядзець на паслужны спіс былога дырэктара **Уладзіміра Шпакава**, то яго і блізка нельга было да завода падпускаць. А ён тры гады развальваў завод, і на гэта спакойна глядзелі. Таму, як мы цяпер працуем, такі ў нас і бюджэт.

Сапраўды, з бюджэтам склалася напружаная сітуацыя. Загадчыца фінансавага аддзела **Паліна Вашкевіч** сказала, што за два месяцы ў гарадскі бюджэт недапаступіла 185 мільёнаў рублёў. За гэты тэрмін запазычанасць бюджэтных устаноў узрасла на мільярд рублёў і складае амаль 3 мільярды рублёў. 63% з гэтай сумы – даўгі бюджэтнікаў за камунальныя паслугі.

Першы намеснік старшыні гарвыканкома **Яфім Ідэльчык** паведаміў некалькі не самых вясёлых фактаў. Па выніках работы за мінулы год 13 з 34 прамысловых прадпрыемстваў былі стратныя. І цяпер большасць з іх так працуюць. 7 сакавіка ліквідаваў запазычанасць па зарплаце за студзень "Электрамодуль". Па стане на 11 сакавіка станказавод не даплаціў сваім рабочым за студзень 20,2 мільёна рублёў. Калі паглядзець работу гандлю, то прагнозныя паказчыкі выконваюцца. Але і тут некаторыя прадпрыемствы працуюць крайне нездавальняюча. Таму і тут патрабуюцца экстранныя меры.

Потым далі слова кіраўнікам. Кожны расказаў аб праграме выхаду з крызісу.

Мікалай Чурсін падвёў вынік:

– Цяпер рост аб'ёму прамысловай вытворчасці будзе кожны тыдзень на кантролі гарвыканкома. І падобныя пазачарговыя пасяджэнні будуць праходзіць штомесяц, пакуль не нармалізуецца сітуацыя. Планавыя паказчыкі трэба выконваць.

Гарвыканкам па выніках работы за апошнія 14 месяцаў прызнаў нездавальняючай работу 13 прамысловых і 7 гандлёвых прадпрыемстваў. Кіраўнікі "Гаранта", станказавода, ЗМК, "Белпрамкультуры" і "Маладзечнаэнергарамонту" атрымалі вымовы.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

# Прадпрымальнікі года

**МАЛАДЗЕЧНА. Гарвыканком вызначыў пераможцаў конкурсу сярод суб'ектаў гаспадарання недзяржаўнай формы ўласнасці. Яны атрымалі званне "Лепшы прадпрымальнік горада Маладзечна", падзяку гарвыканкома і падарункі.**

Сярод кіраўнікоў юрыдычных асоб у галіне вытворчасці і будаўніцтва першае месца падзялілі дырэктары ТДА "Мадия" **Марыя Тарчыла** і ЗАТ "Струм" **Васіль Жукоўскі**. Другое месца – у дырэктара ААТ "Энэф" **Уладзіміра Філіпава**, трэцяе – у дырэктара швейнай фабрыкі "Дзіната" **Валянціны Кацінель**.

Першым сярод кіраўнікоў прадпрыемстваў, якія займаюцца гандлем і бытавымі паслугамі, стаў дырэктар ТАА "Абсалют" **Пётр Калашнікаў**, другім – дырэктар ТАА "Фортэкс" **Раман Вольфсан**. Сярод індывідуальных прадпрымальнікаў лепшымі сталі **Алег Лях** і **Мікалай Апяцёнак**.

Першы намеснік старшыні гарвыканкома **Яфім Ідэльчык** падкрэсліў, што больш за палову гарадскога бюджэту фарміруе недзяржаўны сектар. Больш за 40% гараджан працуюць на недзяржаўных прадпрыемствах.

– Правядзенне розных мерапрыемстваў немагчыма без спонсарскай падтрымкі прадпрымальнікаў. Пачынаючы з правядзення рэспубліканскага фестывалю песні і паэзіі і заканчваючы гарадскім конкурсам прафесійнага майстэрства. Стварэнне камп'ютэрнага класа ў СШ №6 таксама адбылося дзякуючы прадпрымальнікам.

Лепшыя вызначаліся па 20 крытэрыях.

Летась узнікалі непаразуменні паміж прадпрымальнікамі і гарвыканкомам па пытаннях добраўпарадкавання горада і праблемы з утылізацыяй пустых бутэлек. Прадпрымальнікі накіравалі ліст ў рэспубліканскія кантралюючыя органы з просьбай дапамагчы разабрацца.

Як працуецца цяпер, расказвае прадпрымальнік Мікалай Апяцёнак:

– Стала крыху лягчэй. Гарвыканкам цяпер заўсёды ідзе насустрач. Але хацелася б больш эканамічнай свабоды. Заканадаўства ў Польшчы і Літве больш спрыяе развіццю прадпрымальніцтва, чым у Беларусі. 10 гадоў таму ў нас з літоўцамі былі аднолькавыя ўмовы. Цяпер там на парадак лепш.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

# «Не старэюць душой ветэраны»

Гады ваеннага ліхалецця адыходзяць усё далей ад нас у мінулае. Больш сівізны з'яўляецца ў валасах ветэранаў, але што здзіўляе ў іх, — дык гэта падыход да жыцця: аптымізм, імкненне падзяліцца з іншымі сваімі жыццёвымі набыткамі, успомніць ваенныя падзеі, увогуле, пагутарыць з людзьмі, несці ім дабро.

Біяграфію кожнага ветэрана схематычна можна раздзяліць на 3 этапы: даваеннае жыццё, вайна, мірны час. Але колькі нюансаў, жыццёвых перыпетый на кожным з іх! Не толькі артыкулы, кнігі можна напісаць. Закон жыцця такі – няўмольна набліжацца старасць, але ёсць катэгорыя людзей, пра якіх нельга сказаць, што яны старэюць. Можна назваць колькасць пражытых імі гадоў і здзіўляцца маладосці іх душы, імкненню быць патрэбнымі людзям. Гэтымі словамі і хочацца пачаць расказ пра цікавага чалавека, якога добра ведаюць у нашым горадзе і раёне. Прозвішча яго не раз было на старонках нашай газеты, дзе ён расказваў пра іншых, а сёння знаёмцеся: ветэран Вялікай Айчыннай вайны, былы дырэктар Маркаўскай СШ **Канстанцін Дорах**. Не першы год супрацоўнічае ён з Мінскім абласным краязнаўчым музеем, перадаў нам частку сваіх дакументаў ваеннага часу, заўсёды адгукаецца на нашы запрашэнні прыехаць на адкрыццё выставак, выступіць, расказаць пра сябе, ваенныя падзеі, ацаніць нашу работу.

Як нельга расказаць пра падзеі, не звяртаючыся да дат і дакументаў, так нельга расказаць пра чалавека, не перагарнуўшы старонкі яго біяграфіі.


**Канстанцін Дорах побач з жонкай Верай Мікітаўнай дома, у Маркаве.** Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

Нарадзіўся Канстанцін Кананавіч 18 жніўня 1924 года ў вёсцы Перавалока Рэчыцкага раёна Гомельскай вобласці ў сялянскай сям'і, дзе падрастала 5 братоў і 4 сястры. Быў малодшы з братоў, у 4 гады застаўся без бацькі, які атрымаў цяжкую траўму ў час лесасрапрацоўкі і хутка памер. Скончыў 7-годку, паступіў у Рэчыцкае педвучылішча. Пачалася вайна. Старэйшыя браты пайшлі на фронт, а Канстанцін з маці застаўся на акупаванай ворагам тэрыторыі. У 1942 годзе юнак быў схоплены немцамі для адпраўкі ў Германію, але на станцы Васілевічы партызаны адбілі моладзь, давялося хавацца ў лесе, а потым па даручэнні партызан пачаў збіраць зброю і перапраўляць яе ў лес. Пасля вызвалення мясцовасці Чырвонай Арміяй Канстанцін Дорах быў прызваны ў армію (у запасны 218 полк 65 арміі, якой камандаваў генерал Батаў), атрымаў падрыхтоўку кулямётчыка, ваяваў на 1 і 2 Беларускіх франтах, удзельнічаў у Калінкавіцка-Мазырскай аперацыі. Моцны стрэс перажыў пры вызваленні Азарычаў, дзе фашысты стварылі лагеры смерці. Жудасная карціна адкрылася: балоты, агароджаныя калючым дротам, а там – жанчыны, старыя, голад, холад, сыпны тыф.

На ўсё жыццё запомніў Канстанцін Кананавіч ноч, калі, сабраўшы жменьку салдат, што засталіся ў жывых, на подступах да Бабруйска, адбівалі адну атаку за адной. Дзе знаходзіліся сілы, каб вытрымаць такія фізічныя і маральныя нагрузкі? Раніцай пачалося вызваленне Бабруйска. 115 стралковая брыгада атрымала ганаровае званне "Бабруйскай" (у ліку 20 іншых вайсковых часцей і злучэнняў, якія вызвалялі горад), а К. Дораха і некалькіх салдат за той бой узнагародзілі ордэнам Славы III ступені, прысвоілі званне сяржанта. А за вызваленне чыгуначнай станцыі Бабруйск ён атрымаў падзяку. Потым вызваленне Асіповіч, Слуцка, Баранавіч, Слоніма, Брэста...

Пра вызваленне Польшчы і Германіі нагадваюць 2 медалі "За адвагу", медаль "За вызваленне Варшавы", падзякі "...За ўдзел у баях пра фарсіраванні ўсходняга і заходняга Одэра, за прарыў моцна ўмацаванай абароны немцаў на заходнім беразе Одэра і авалоданне галоўным горадам Памераніі і буйным марскім портам-Штэцін", "Вам, удзельніку баёў, за фарсіраванне праліва Штральзундэрфарвасэр, узяцце на востраве Руген гарадоў Берген, Гарц, Путбус, Засніц і за поўнае авалоданне востравам Руген – загадам Вярхоўнага Галоўнакамандуючага Маршала Савецкага Саюза таварыша Сталіна за №363 ад 6 мая 1945 года аб'яўленая падзяка"...

Сустрэча з саюзнымі англійскімі войскамі. Падымалі бакалы, абменьваліся сувенірамі, пілоткамі, радаваліся блізкай Перамозе.

Дома радасць Перамогі была азмрочаная звесткамі, што брат **Васіль** трапіў у палон і загінуў у Баранавіцкім лагеры для ваеннапалонных. Другі брат – **Іван** – загінуў у 1944 годзе пры вызваленні Польшчы. Заставацца ў роспачы не дазваляў час, патрэбна было аднаўляць народную гаспадарку. Усё пасляваеннае жыццё Канстанціна Кананавіча звязанае з Маладзечаншчынай, сваю прафесійную дзейнасць прысвяціў ён нялёгкай працы настаўніка. З 1946 года – у Радашкоўскай СШ, завочная вучоба ў Мінскім педінстытуце, пасля 2 курса – дырэктар Пранчэйкаўскай 8-гадовай школы, загадчык Радашкоўскага раённага аддзела адукацыі, настаўнік Аляхновіцкай сярэдняй школы, дырэктар Чысцінскай школы, з 1962 года – дырэктар Маркаўскай сярэдняй школы, адкуль і пайшоў на пенсію. Выдатнік народнай асветы, шмат грамат Міністэрства асветы БССР. Па сённяшні дзень збірае матэрыялы для школьнага музея, разам з былым настаўнікам, ветэранам Вялікай Айчыннай вайны, які прайшоў усю вайну з першага дня, **Віктарам Бараўцом** праводзіць сустрэчы з вучнямі Маркаўскай, Лебедзеўскай, Турэц-Баярскай, Красненскай, Чысцінскай школ напярэдадні 23 лютага, 9 мая, 3 ліпеня. Разам з жонкай, **Верай Мікітаўнай**, якая 33 гады кіруе ансамблем песні "Маркаўчанка", заслужанай настаўніцай рэспублікі (з 1966 года), рыхтуе сустрэчы з землякамі.

Заўсёды прыемна сустрэцца і пагутарыць з такімі цікавымі людзьмі, як Канстанцін Кананавіч і Вера Мікітаўна (пра яе і ансамбль "Маркаўчанка", напэўна, павінен быць асобны артыкул).

Гасцінныя людзі, яны жывуць не толькі для сябе, але аддаюць свае сілы людзям. Канстанцін Кананавіч і цяпер з'яўляецца дэпутатам мясцовага Савета. Напэўна, і выглядаюць яны маладжава таму, што валодаюць якасцямі, якія нясуць добрую энергію людзям і атрымліваюць яе для сябе. Ведаючы доўга чалавека, сутнасць яго можна перадаць трапнай фразай, фразеалагізмам. Мне здаецца, што пра Канстанціна Дораха і Веру Зікунову з упэўненасцю можна сказаць: "Не старэюць душой ветэраны". І дзякуй ім за гэта.

**Лілія НАГАЙЦАВА, загадчык аддзела Мінскага абласнога краязнаўчага музея, Маладзечна.**

## Ветэранам пуцёўкі не патрэбныя?

**ВАЛОЖЫН. Летась дарослыя і дзеці, якія пацярпелі ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС, атрымалі 882 бясплатныя аздараўленчыя пуцёўкі.**

Сярод 537 удзельнікаў другой сусветнай вайны і інвалідаў вайны, якія штогод маюць права на бясплатную пуцёўку, толькі 5 чалавек папправілі здароўе. Астатнія ўзялі грашовую кампенсацыю. А тыя, хто толькі выйшаў на пенсію па ўзросце, утвараюць чэргі за пуцёўкамі ў раённым аддзеле працы і сацыяльнай абароны насельніцтва. Яны могуць адпачываць у санаторыі раз на 2 гады.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

## Рэктар за школьнай партай

**ВАЛОЖЫН. 12 сакавіка на базе Вішнеўскай школы прайшло пасяджэнне "Школы маладога настаўніка".**

На сустрэчу запрасілі маладых спецыялістаў, якія працуюць першы ці другі год у школах раёна. Прыехаў рэктар Дзяржаўнага педагагічнага універсітэта імя М. Танка **Леанід Цыханаў**. Былі прадстаўнікі міністэрства адукацыі, мясцовага філіяла "Беларусбанка".

Рэктар цікавіўся лёсам сваіх выпускнікоў, наведаў урокі, адказаў на пытанні настаўнікаў, якія не маюць вышэйшай адукацыі і якія хацелі б вучыцца ва універсітэце.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

## Жаночыя сустрэчы

**АСТРАВЕЦ. На мінулым тыдні маладзёжная ініцыятыва "Віленскі тракт" арганізавала сустрэчу жанчын пасёлка з прадстаўнікамі жаночых грамадскіх арганізацый са Смаргоні і Гродна.**

**Валянціна Танеева** са Смаргонскага грамадскага аб'яднання шматдзетных маці расказала аб сваёй дзейнасці ў суседнім раёне, аб праблемах, з якімі сутыкаецца гэтая катэгорыя жанчын, і спосабах іх вырашэння.

Старшыня грамадскага аб'яднання "Беларуская асацыяцыя малады хрысціянскіх жанчын Смаргоні" **Галіна Бяляўская** дала кароткую характарыстыку сваёй арганізацыі. Пра дзейнасць грамадскіх арганізацый увогуле і жаночых у прыватнасці расказала прадстаўнік "Трэцяга сектара" з Гродна **Святлана Руднік**.

Астравецкія жанчыны вырашылі, што час пераймаць досвед суседзяў і стварыць сваю грамадскую арганізацыю.

**Галіна ФРАНЦКЕВІЧ.**

# Хто павінен вырашаць маладзёжныя праблемы?

## Апытанне жыхароў Астраўца і Ашмянаў

**АСТРАВЕЦ. З 27 лютага па 2 сакавіка рабочая група рэгіянальнага маладзёжнага парламента правяла сацыялагічнае даследаванне "Моладзь і грамадства, дзяржава і маладзёжныя праблемы". Апыталі 240 чалавек ва ўзросце ад 16 да 31 года.**




62% апытаных лічаць, што ў горадзе на сённяшні дзень вельмі актуальныя праблемы моладзі. На думку 47% рэспандэнтаў, рашаць маладзёжныя праблемы павінная дзяржава, 25% лічаць, што гэта, у першую чаргу, справа самой моладзі, 28% ускладаюць адказнасць на грамадства.

40% лічаць, што існуюць такія структуры, якія займаюцца рашэннем праблем моладзі, але працуюць не так эфектыўна, як павінны. 93% апытанай моладзі лічаць, што неабходна стварыць новую структуру, якая не толькі займалася б рашэннем маладзёжных праблем, але і абаронай правоў і інтарэсаў моладзі горада. 49% з іх выказала жаданне працаваць у такой структуры.


**Няма праблем?** Фота IREX/ProMedia.

**АШМЯНЫ. Падобнае апытанне тут правялі 2-5 сакавіка. Свае меркаванні выказалі 210 чалавек ва ўзросце ад 16 до 31 года.**

90% апытаных лічаць, што ў горадзе на сённяшні дзень вельмі актуальныя праблемы моладзі, 50% лічаць, што вінаватая ў гэтым сама моладзь. 41% абвінавачвае ў гэтым дзяржаўную палітыку.




На думку 23% рэспандэнтаў, рашаць маладзёжныя праблемы павінна дзяржава, 37% лічаць, што гэта, у першую чаргу, справа самой моладзі, 34% ускладаюць адказнасць на грамадства.

22% было цяжка назваць структуры, якія гэтым займаюцца на сённяшні дзень, 56% лічаць, што такія структуры існуюць, але працуюць не так эфектыўна, як павінны.

Абсалютная большасць апытанай моладзі — 87% — лічаць, што неабходна ствараць новую структуру, якая не толькі займалася б рашэннем маладзёжных праблем, але і абаронай правоў і інтарэсаў моладзі горада. 56% з іх выказала жаданне працаваць у такой структуры.

Практычна ўся моладзь Ашмянскага раёна згадзілася, што неабходна ствараць новую структуру, якая займалася б рашэннем маладзёжных праблем, абаронай правоў і інтарэсаў моладзі горада.

**Анатоль МІКІШОЎ.**



## ВІНШАВАНКІ

Віншуем **Сашу Станулевіча** з днём нараджэння! Жадаем поспехаў у вучобе, здзяйснення мараў. *Тата, мама.*

Віншуем любімую матулю і бабулю **Валянціну Іванаўну Дзятко** з днём нараджэння! Жадаем здароўя, шчасця і дабрабыту. *Дзеці і ўнукі.*

Віншуем з днём нараджэння **Наталлю Мікалаеўну Шэмет**! Жадаем шчасця, здароўя, вялікага кахання! *Алена, Уладзімір, Віка Ельяшэвічы.*

Віншуем з 55-годдзем **Васіля Міхайлавіча Фалея**! Жадаем даўгалецця, шчасця, удачы, здароўя. *Жонка, дзеці, унучка.*

Віншуем з днём нараджэння **Алену Мікалаеўну Траймак**! Жадаем ёй моцнага здароўя, шчасця, кахання, дабрабыту ў сям'і. *Калегі.*

Дарагую **Наталлю Міхайлаўну Цеплякову**! С юбілеем поздравляем и от всей души желаем счастья, радости, добра и сердечного тепла! *Сяброўкі.*

Віншую з вясной **мамачку Лену і сястрычку Наталлю**! *Надзея Мікуліч.*

**Паважаныя жанчыны**, віншуем з першым вясновым цяплом! Будзьце здаровыя, любімыя, шчаслівыя! *Бацькі групы №8 д/с №9 г. Вілейкі.*

Дарагая наша мама і бабуля **Роза Закіраўна Драгун**! Віншуем з надыходам вясны! Жадаем усяго самага добрага, здароўя. *Родныя.*

Паважаная **Ларыса Сяргееўна Мількота**, віншуем вас з вясной! Жадаем вам здароўя, шчасця. *Аддзел №198.*

Дарагая мама, сястрычкі **Галя і Ніна Клімовічы** і вашы дзяўчаткі, віншуем з надыходам вясны! Моцнага здароўя і ўсяго найлепшага! *Аля Драгун і яе сям'я.*

Паважаная **Святлана Юр'еўна Спрынцына,** з вясновым сонцам! Дзякуй вам за радасць, якую вы дорыце дзеткам і іх бацькам! *Людміла Іванаўна і Юля Шчаковічы.*

**Раіса Вікенцьеўна Запіляй і Таццяна Уладзіміраўна Тамашэвіч**, з вясной! Усяго найлепшага ў вашым жыцці! *З павагай Юля Шчаковіч.*

**Галіна Дземідовіч**, са святам вясны! Здароўя, шчасця, будзь заўсёды абаяльная! *Рэгіна.*

Са святам вясны віншую **Соф'ю Міхайлаўну Каваленку**! Здароўя, шчасця, удачы, лебядзінай песні. *Рэгіна Ляпцюк.*

**Ганне Вікенцьеўне Гралеўскай і Святлане Іванаўне Саўлевіч**. Дзяўчаты, з вясной! Здароўя, шчаця, удачы, міру, дабра. *Рэгіна.*

**Зоя Пыжыкава**, віншую са святам вясны! Здароўя, шчасця, поспехаў ва ўсім! *Рэгіна.*

# Як савецкі вецер эксплуатавалі

**МЯДЗЕЛ. Гэта цяпер Нарачанскі край – своеасаблівы цэнтр развіцця альтэрнатыўных крыніц энергіі ў рэспубліцы, цэлыя два магутныя ветракі тут круцяцца. Але ў гісторыі развіцця ветраэнергетыкі ў краі не ўсё было так добра. Такі выпадак расказаў краязнаўца з Камарова Яська Драўніцкі:**

– Жыў у Старой Вёсцы (гэта недалёка ад Свіры) чалавек па прозвішчу **Гуйскі**. Быў малазямельны і таму ездзіў на заработкі: да рэвалюцыі – у Санкт-Пецярбург, пры Польшчы – у Аргенціну. Там зарабіў пэўныя грошы, вярнуўся з намерам купіць зямлі. Толькі прыехаў – а ўжо 1939 год, вайна, зямлі купіць ён не паспеў. Прыйшлі Саветы, потым акупацыя фашысцкая, а жыць неяк трэба. Сам рукасты хлопец: і кавальскай справай, і сталярствам займаўся. І вось зрабіў ён ветраны млын, каб зарабіць якую капейку: таму-сяму суседу змалоціць і сабе, вядома. Нават маленькую дынамку расстараўся і ад ветрака асвятляў хату.

Вайна скончылася, пачалася калектывізацыя – трэба, каб усе ў калгас ішлі. У каго была зямля, то падаткамі абкладалі. А ў Гуйскага зямлі амаль не было, ён адмаўляўся ўступаць у калгас. Можа, яму і выгадна было б туды ісці, але ён з-за прынцыпу не хацеў: «Не пайду – і ўсё. А што вы мне зробіце! Нічога ў мяне няма».



Гэтаму ветраку ля Занарачы ўжо не «прышыюць» выкарыстанне савецкага ветру. Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

І тут хадзілі начальнікі, меркавалі, як да яго падступіцца, а потым некаму ў галаву цюкнула: «Ага, млын». І вось тут яму налічваюць заплаціць ... «за выкарыстанне савецкага ветру». Выклікаюць у пракуратуру ў Свір, будуць вялікія грошы накладваць. А тут яшчэ прыпомнілі, што дзяўчына з Беластока, якая перад вайной вучылася ў школе механізацыі ў Камарове, ў яго сям'і ўсю акупацыю пражыла, бо не было як дамоў вярнуцца. Дык вось, яшчэ і эксплуатацыю чужой працы хочуць «прышыць». Такім чынам, пагражае яму высылка ў Сібір. І тут ужо спужаўся той Гуйскі. Ужо пачаў і сухары сушыць, вось, кажа, даштукаваўся. Але пашанцавала: дзяўчына пасля вайны дабралася да хаты, напісала шчыры ліст падзякі. Ён за гэты ліст – і ў пракуратуру, райком пайшоў. Гаворыць: «Тут мяне абвінавачваюць. З ветрам ужо як-небудзь, а эксплуатацыі не было». Ну добра, кажуць, ламай млын, тады ў Сібір не павязем. Давялося разламаць, і ў калгас уступіў. І пляму «за выкарыстанне савецкага ветру» з яго знялі.

**Запісаў Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Набліжаецца новая камета

Не паспелі жыхары планеты праводзіць яркую камету LINEAR, адкрытую аўтаматычнай сістэмай на калязямнай арбіце ў канцы 2001 года, як на падыходзе новая камета C/2002 C1 Ikeya-Zhang, адкрытая ў пачатку гэтага года.

Простым вокам "касматая" госця будзе бачная па вечарах з пачатку сакавіка ў заходнім сектары неба на вышыні прыкладна 30 градусаў над гарызонтам у сузор'і Рыбаў як невялікае воблачка, заўважыць якое змогуць зоркія і ўважлівыя назіральнікі. Маладзік сярэдзіне сакавіка забяспечыць ідэальныя ўмовы для назірання каметы на бязмесяцавым небе. Максімальнай яркасці камета дасягне, мяркуецца, да канца сакавіка (4 зорная велічыня, самыя слабыя зоркі ў бязмесяцавую ноч маюць 5-6 з. велічыні), застаючыся ў сузор'і Рыбаў практычна на той жа вышыні над гарызонтам і бачнай да поўначы. У гэты момант цікава будзе паназіраць за каметай у бінокль або невялікі тэлескоп, каб заўважыць яе структуру і хвост.

У пачатку красавіка камета пераходзіць у сузор'е Касіяпеі, якое нагадвае лацінскую літару "W", і будзе бачная з вечара на вышыні прыкладна 40 градусаў над гарызонтам у паўночна-заходнім сектары неба практычна ўсю ноч. Да сярэдзіны красавіка камета пераходзіць у суседняе сузор'е Цэфей і таксама бачная ўсю ноч у паўночна-заходнім, паўночным сектары неба на вышыні 30-20 градусаў над гарызонтам, усё яшчэ застаючыся заўважнай простым вокам, па яркасці параўнальнай з самымі слабымі зоркамі. Да пачатку мая камета пераходзіць у сузор'е Дракона і будзе выдатна відаць у бінокль і невялікія тэлескопы. Удалых назіранняў!

**Па матэрыялах навукова-папулярнага бюлетэня аматараў астраноміі Беларусі "Неба і Чалавек".**

**Іван СЯРГЕЙ, Маладзечна.**

■ НЯВЫДУМАНЫЯ ГІСТОРЫІ

## Кінагледачы-зайцы

**(паводле ўспамінаў жыхаркі вёскі Навасёлкі Ганны Захарэвіч)**

Мы, дзеці пасляваенных гадоў, з асаблівым хваляваннем, надзеяй і трывогай чакалі таго дня, калі ў вёску завітае кінаперасоўка. Чаму, спытаеце, з трывогай? Грошы на білеты не заўсёды давалі бацькі.

Маёй маці – салдацкай удаве – ледзь хапала грошай на соль, хлеб, запалкі. У такім становішчы былі многія мае аднагодкі. Вось і трывожыліся, якім чынам трапіць у глядзельную залу – прасторную сялянскую хату (раней хата не перагароджвалася на пакоі-катухі). Падлеткі выпрацавалі такую незвычайную тактыку: за гадзіну-другую некалькі нас заходзіла ў вясковы "кінатэатр" і са згоды гаспадыні хаваліся, як толькі да дома набліжаўся кінамеханік з апаратурай. Хто залазіў пад ложак, а хто забіраўся пад печ (была там вялікая ніша). На самой печы, прыкрыўшыся рознымі лахманамі, суцішыўшыся, ляжалі юныя аматары кіно і абліваліся потам.

Кінамеханік М. заносіў у хату праектар, прымацоўваў да сцяны экран, на панадворку заводзіў рухавік. Людзі куплялі білеты, садзіліся на прынесеныя з сабой табурэткі. І вось засвяціўся экран. Са сваіх схованак, бы краты з нораў, вылазілі гледачы-зайцы. Такія нашы выдумкі працягваліся нядоўга. Кінамеханік "раскусіў" прычыну, чаму ў зале больш гледачоў, чым прадаў білетаў. Прамаўчаў, а на наступны раз пачаў пошук безбілетнікаў: заглядаў пад ложкі, пад печ і на печ. Ды не проста так, а з качаргой у руках. Як крыўдна было, што выганяў з залы, што не давялося ўбачыць кінафільм.

У многім мы, падлеткі, адмаўлялі сабе: не куплялі цукерак ды іншых ласункаў. Без пярэчанняў выконвалі загады дамашніх, каб толькі потым выпрасіць капейчыну на тое цуда-кіно. Сёння для многіх кіно замяніў экран тэлевізара. І ўсё ж у памяці захаваліся падзеі дзяцінства.

**Запісаў Міхась ЧАРНЯЎСКІ.**

■ ЯК ЗВАРЫШ, ТАК І З'ЯСІ



## Кракеты з рысу

**200 г рысу, 3 лыжкі масла, 3 яйкі, цыбуля, 3 лыжкі тоўчаных сухароў, кураня, 1 лыжка сыру.**

Перабраць і вымыць 200 г рысу, даліць крыху булёну пакласці лыжку масла, соль, перац, цыбуліну, паставіць на агонь і варыць накрытым. Зварыць у булёне маленькае кураня, выняць на дошку, дробна парэзаць мяккія часткі, а з булёну зрабіць соус і паставіць на агонь. У выкіпачаны соус пакласці адзін узбіты жаўток, пракіпяціць, пакласці нарэзанае кураня, размяшаць, пасаліць, пакласці крыху перцу і выкласці на талерку. Калі рыс зварыцца, выняць цыбулю, расцерці рыс, усыпаць адну лыжку надзертага сыру, перамяшаць і пакінуць астываць. Потым узяць у лыжку расцертага рысу, пакласці ў сярэдзіну частку нарэзанай мякаці кураняці, накрыць рысам і зляпіць так, каб фарш з сярэдзіны не быў відаць. Выкласці на стол, абсыпаць тоўчанымі сухарамі і зрабіць роўныя кракеты. Потым абмакнуць кожны ў разбітае яйка, укачаць у тоўчаных сухарах, пакласці ў распушчанае ў сатэйніке масла і смажыць з абодвух бакоў, пакуль не падрумяняцца. Можна смажыць і ў фрыцюры.

## Пірог «Няхітры»

Надзерці на тарцы 0,5 пачка маргарыну, дадаць 3 лыжкі смятаны, 1 шклянку мукі, 2 лыжачкі соды (пагасіць), соль на смак. Перамяшаць і, пакуль гатуецца начынка, трымаць у халадзільніку. Начынка: 3 нарэзаныя вялікія цыбуліны патушыць на алеі да залацістага колеру. Зняць з агню, дадаць 2 сырыя яйкі, 2 плаўленыя сыркі, папярэдне надзертыя на тарцы (яшчэ лепш – надзерты цвёрды сыр). Можна дадаць грыбы ці мяса, капусту. Цеста дзелім на 2 часткі (ніз таўсцейшы, чым верх). Пірог робім закрыты. Змазаць пірог яйкам. Пячы ў гарачай духоўцы прыблізна 30 хвілін. Падаваць халодным.

■ КОНКУРСЫ



## Зарабі білеты ў кіно

Прывітанне, шаноўныя!

І на гэты раз ніхто не даў дакладнага адказу – старыя яўрэі і новыя рускія. Бліжэй за іншых быў **Юрый Юхневіч**, які даў напалову правільны адказ.

Наступнае заданне. Падчас міжнароднага шахматнага турніру, які праходзіў у Маскве ў 1925 годзе, нехта пусціў чутку, што Капабланка жанаты на дачцэ аўтамабільнага магната Генры Форда. На пытанне журналіста, ці праўда гэта, Капабланка сказаў з усмешкай: "Сапраўды, я збіраўся стаць зяцем Форда, але амерыканскі мільянер падкачаў". Пытанне: у чым ён "падкачаў"?

Тэлефануйце 69667 у Маладзечне (апошні тэрмін 20-га сакавіка, 16-00).

**Юрый КАРПІЦКІ.**

### Звярніце ўвагу

Шаноўныя чытачы, калі вы хочаце павіншаваць знаёмых, блізкіх, то высылайце купон з разборліва напісаным тэкстам загадзя. Указвайце дату публікацыі – газета выходзіць па пятніцах. Бясплатна прымаюцца віншаванкі аб'ёмам да 15 слоў, якія паступілі ў рэдакцыю да аўторка ўключна. Зрабіце прыемнае сваім блізкім – павіншуйце іх праз газету!

Калі вы хочаце размясціць аб'яву аб знаёмстве, калі ласка, указвайце адрас да запатрабавання. Бясплатна змяшчаюцца аб'явы аб знаёмстве аб'ёмам да 15 слоў. Публікуюцца па чарзе. Па-за чаргой – платна. Жадаем знайсці сваё шчасце!

**Купон** 11

**да рубрык «Віншаванкі» і «Знаёмствы».**
**Бясплатна змяшчаюцца тэксты аб'ёмам да 15 слоў.**
**Ананімныя купоны не разглядаюцца. Пішыце, калі ласка, разборліва.**

ТЭКСТ

Рэгіянальная газета

ПРОЗВІШЧА, ІМЯ, АДРАС (НЕ ДЛЯ ДРУКУ)

## ЗНАЁМСТВЫ

Дзяўчына (31/169/56, в/а, сціплая, без шк/зв.) пазнаёміцца з адзінокім мужчынам для сур'ёзных адносін. Маладзечна-4, п/п МС 0693669.

Удава пазнаёміцца з мужчынам без шк/зв., 55-62 год, для сяброўства. Маладзечна-6, п/п 0572962.

Інвалід 33 год, характар спакойны, без жыллёвых праблем, пазнаёміцца з дзяўчынай для стварэння сям'і (узрост значэння не мае). Маладзечна-7, МС 0487030.

Пазнаёмлюся з мужчынам 42-50 год для стварэння сям'і. Маладзечна-6, п/п Х-ВН №745342.

Вы ўпэўненыя, што вартыя дастойнага мужа і сябра?! Напішыце, не пашкадуеце. Мне яшчэ толькі 46/177/77. Маладзечна-6, п/д ВУ №003219.

## Кінатэатр «Радзіма»

**Сакавік**

**Вялікая зала**

15–17 **"Выбар капітана Карэлі"**, ЗША, прэм'ера, рамантыч. меладрама, 2 серыі 16-00, 18-30, 21-00

18–24 **"Пустэльнік"**, Расія, дэтэктыў 17-00

**"У доступе адмоўлена"**, ЗША, містычны баявік 15-00, 19-00 (акрамя 19 і 21 сакавіка), 21-00

19 сакавіка – **"Мужчына і жанчына праз 20 год"** (рэтра-клуб "Настальгія") 19-00

21 – **"Прыйшоў час кахаць"**, 2 серыі 19-00

**Для дзяцей**

17 – **"Як Іванка-дурань за цудам хадзіў"** 13-00

■ ІМЯНІНЫ

**15 сакавіка**
**Праваслаўныя**: Арсенія, Багдана.
**Каталіцкія**: Людвіка, Клеменса.

**16 сакавіка**
**Праваслаўныя**: Кляоніка, Зіновія, Заіла.
**Каталіцкія**: Ізабелы, Гіляра, Рэната.

**17 сакавіка**
**Праваслаўныя**: Ульяны, Васіля, Вячаслава, Герасіма, Паўла, Рыгора, Якава.
**Каталіцкія**: Збігнева, Патрыка, Яна.

**18 сакавіка**
**Праваслаўныя**: Андрыяна, Анісія, Давыда, Конана, Марка, Фёдара, Яўлампія.
**Каталіцкія**: Кірылы, Эдуарда.

**19 сакавіка**
**Праваслаўныя**: Аркадзя, Канстанціна, Конана, Фёдара.
**Каталіцкія**: Багдана, Юзафа.

**20 сакавіка**
**Праваслаўныя**: Васіля, Паўла.
**Каталіцкія**: Яўфіміі, Клаўдзіі.

**21 сакавіка**
**Праваслаўныя**: Арсенія, Лазара.
**Каталіцкія**: Бенядыкта, Мікалая.

## ■ КРЫЖАВАНКА

Ірына САХАЦКАЯ.



**Па гарызанталях:** 4. Той, хто пастаянна злуецца. 7. Марка японскага аўтамабіля. 8. Урачысты агляд войскаў. 10. Адзінка вымярэння атмасфернага ціску. 12. Жаночае ўпрыгожванне з каштоўных камянёў і інш. 15. Горад у Расіі ў Чыцінскай вобласці на рацэ Інгода. 16. Металічны шпень, які забіваецца ў шпалу для прымацавання рэек да рэйкі. 19. Амерыканскі кракадзіл. 20. Верхні слой чаго-небудзь. 23. Цяжкі кавальскі молат. 25. Найбольш ініцыятыўная частка калектыву, арганізацыі. 26. Ядавітая змяя спякотных краін. 28. Горад ва Удмурціі. 30. "Дом" для самалёта. 31. Моцная гарачыня ў паветры. 32. Лірычная песня венецыянскіх лодачнікаў.

**Па вертыкалях:** 1. Палітычнае панаванне. 2. Драбназярністы будаўнічы гіпс. 3. Паласа зямлі каля вадаёма. 5. Дваранскі тытул. 6. Халодная зброя з доўгім клінкам. 9. Птушка сямейства вераб'іных. 11. Будова. 13. Горад у Расіі ў Новасібірскай вобласці. 14. Пасёлак ля горада (уст.). 17. Верхняя частка будынка. 18. Горад у Якуціі, недалёка ад сталіцы. 21. Марка амерыканскага аўтамабіля. 22. Таможня. 24. Вуда для лоўлі рыбы са дна вадаёма. 27. Расціранне цела з лячэбнай мэтай. 29. Няміласць, гнеў (уст.).

**Адказы на крыжаванку, змешчаную ў № 10**

1. Газета. 2. Анкара. 3. Акула. 4. Акуліст. 5. Трактар. 6. Ракета. 7. Аналаг. 8. Гарох. 9. Халат. 10. Тэадаліт. 11. Тыран. 12. Нектар. 13. Разец. 14. Цацарка. 15. Абраз. 16. Зарава. 17. Акт.
**Літара "Р":** 1. Дварэц. 2. Цеста. 3. Адвага. 4. Адвар. 5. Разя. 6. Янтар. 7. Разьбяр.
**Літара "Г":** 1. Разора. 2. Адонак. 3. Корушка. 4. Абабак. 5. Каста.

## Гараскоп 18 – 24 сакавіка



**Авен** (21.03–20.04)

Узрасце ваш аўтарытэт, умацуюцца дзелавыя сувязі. Нейкае прадпрыемства, што вы задумалі літаральна ўчора, настолькі павысіць ваш сацыяльны статус, што пазайздросцяць нават самыя добразычлівыя людзі. Аднак сямейныя стасункі абяцаюць праблемы, ухіліцца ад вырашэння якіх у вас ніяк не атрымаецца.



**Цялец** (21.04–21.05)

Калі вы захацелі памяняць работу, купіць нерухомасць або пераехаць на іншае месца жыхарства, то менш спрыяльны перыяд у годзе проста немагчыма знайсці. Нават калі вы седзіце на чамаданах, распакуйце іх і сядзіце дома. Непажадана таксама і проста адпраўляцца ў дарогу, дробныя ДТЗ не прывядуць да страт, але нервы папсуюць.



**Блізняты** (22.05–21.06)

На рабоце вам могуць паднесці "сюрпрыз". Не расслабляйцеся, не давярайце нават маленькіх сакрэтаў нават самым блізкім людзям. Некалькі працоўных дзён будзе ў адносінах з процілеглым полам: лёгка вырашацца ўсе тыя канфлікты, якія перашкаджалі паўнацэнным стасункам.



**Рак** (22.06–23.07)

Будзьце асцярожныя нават у самых кароткіх паездках, менш выкарыстоўвайце электрапрыборы і прадметы, якія могуць нанесці траўму. На рабоце – нейкі прарыў, які дазволіць папоўніць кашалькі. Але галоўнае – чарговы раман.



**Леў** (24.07–23.08)

Жанчынам-Львіцам партнёры прынясуць сапраўдную здабычу. Акрамя таго, яны самі ў гэты перыяд змогуць зарабляць нечакана вялікія грошы, асабліва калі іх бізнес звязаны з пасрэдніцтвам. А вось што тычыцца мужчын... Прыглядзьцеся да свайго асяроддзя: хтосьці нагаворвае на вас. Праблемы ў сям'і.



**Дзева** (24.08–23.09)

Звярніце ўвагу на паведамленне, якое, на першы погляд, можа здавацца дробязным. Часам дробязі прыносяць нашмат больш інфармацыі, чым глабальныя навіны. Калі маеце службовы раман, то пакуль не перарывайце яго.



**Шалі** (24.09–23.10)

Вам захочацца выбрацца ў людзі, паказаць сябе з самага элегантнага боку. Вы будзеце настроеныя траціць грошы нават на тых, каго яшчэ ўчора бачыць не маглі. Але літаральна на днях мае быць нечаканы візіт кантралюючых органаў, і лепш не вельмі кідацца ў забавы.



**Скарпіён** (24.10–22.11)

Вы дасягнеце нейкай мэты, якая прынясе значную падтрымку вашаму дзелавому аўтарытэту, умацуе павагу да вас з боку высокага начальства і... канчаткова развядзе з любімым чалавекам. Не ўцякайце ад яго, проста патлумачце, што вы занятыя.



**Стралец** (23.11–21.12)

Магчымыя непрыемнасці ўнутранага характару. Вам можа здавацца, што вас ніхто не разумее, ніхто не слухае, ніхто не любіць. Глупства! Проста лёгкая дэпрэсія, калі яе культываваць, атруціць будучы перыяд не толькі вам, але і тым, хто вам адданы. Чакайце ў госці сваякоў з незвычайнай просьбай.



**Казярог** (22.12–20.01)

Перад вамі няпросты выбар: ці адкінуць усе справы і займацца сваімі праблемамі, ці забыцца на праблемы і заняцца справамі. Пажадана другое, таму што інтэнсіўная работа можа папраівць нешта непрыемнае ў вашым жыцці. Магчымыя выпадковыя грошы або знаходка.



**Вадалей** (21.01–19.02)

Эмоцыі у стане поўнага ўпадку. Ваш змрочны настрой і пастаянныя прыдзіркі да блізкіх вывядуць з сябе нават самых стойкіх. Паспрабуйце заняць сябе новым хобі, паездкай або сустрэчай з тымі людзьмі, якія вас хацяб не раздражняюць. А вось справы прынясуць буйныя грошы.



**Рыбы** (20.02–20.03)

Усё яшчэ пад уражаннем шчаслівага і бесклапотна пражытых дзён. Паспрабуйце як мага больш захаваць у сабе гэтае адчуванне, бо шчаслівыя імгненні даюцца нам з адной мэтай – імкнуцца перажыць іх яшчэ раз. У вас шмат сяброў і паклоннікаў.

## Калі ўкралі аўтамабіль – не марудзьце

**МАЛАДЗЕЧНА. За 2001 год у горадзе ўкралі 16 аўтамашын: 13 – са стаянак, якія не ахоўваліся і 3 аўтамашыны – з гаражоў.**

А ўгналі 13 машын, 12 з якіх знайшлі. Адрозненне паміж угонам і крадзяжом у наступным. Уганяюць, каб пакатацца і кінуць, а крадуць, каб прысвоіць машыну і потым прадаць. Адказнасць таксама розная: за ўгон – ад 5 гадоў, а за крадзеж – ад 7 гадоў пазбаўлення волі.

Як расказаў оперупаўнаважаны крымінальнага вышуку **Аляксандр Рудніцкі**, больш крадуць машыны германскай вытворчасці, пасля 1988 года выпуску: "Фольксваген-Пасат", "Аўдзі 80", "Аўдзі 100", "Фольксваген-транспарцёр". У асноўным, іх раскрадаюць як на запчасткі, так і пад заказ. Ні ў адной з выкрадзеных аўтамашын не было сігналізацыі. Самыя небяспечныя месцы ў горадзе – калгасны рынак, аўтастаянкі па вуліцы Л. Талстога, Б. Хмяльніцкага і Цэнтральнай Плошчы. Самае складанае пры падобных злачынствах – вызначэнне часу, які спатрэбіўся для ўгону. Каб знізіць верагоднасць угону ці крадзяжу машыны, ДАІ рэкамендуе выканаць 2 правілы: абсталяваць аўтамабіль сігналізацыяй, механічнымі запорамі на руль, каробку перадач, педалі. Няблага таксама мець схаваныя тумблеры, раз'ёмы і датчыкі, якія выключаць магчымасць несанкцыянаванага запуску рухавіка. Ды і гаспадары, пакуль апамятаюцца, позна паведамляюць. Таму калі ў вас угналі ці выкралі аўтамабіль, не марудзьце і адразу звяртайцеся ў дзяжурную часць.

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**

## Не застрахаваліся

**МАЛАДЗЕЧНА. Не застрахаваным ад злодзеяў аказаўся «Беліндзяржстрах». У святочныя дні абакралі яго офіс.**

Злачынцы ўзламалі краты на вокнах. Яны вынеслі 2 прынтэры і 3 сістэмныя блокі. Пасля сябе яны пакінулі адбіткі пальцаў і далоні. Узбуджаная крымінальная справа.

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**



## ■ КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА

### Патроны ў кішэнях

**МАЛАДЗЕЧНА. 11 сакавіка нарад дарожна-паставой службы затрымаў 35-гадовага мужчыну, які ў нецвярозым стане вёў свой "Фольксваген-транспарцёр".**

Ён адмовіўся паказаць дакументы і правы на кіраванне аўтамабілем. Пры вобыску ў кішэнях яго курткі знайшлі 11 патронаў да наразной агнястрэльнай зброі. Знаходку канфіскавалі. Вядзецца следства.

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**

### Сачыце за сумкамі

**МАЛАДЗЕЧНА. 4 сакавіка ў жыхара вёскі Паняцічы, што ў Вілейскім раёне, на аўтавакзале ўкралі гаспадарчую сумку.**

У ёй былі прадукты харчавання: два 3-літровыя слоікі варэння, 2 кілаграмы мукі, бляшанка кавы, 0,5 літра мёду і дзве бутэлькі алею. Злачынцу затрымалі. Гэта 58-гадовы жыхар вёскі Бурнейкі (Валожынскі раён), яго накіравалі ў ізалятар часовага затрымання.

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**

### Нашто злодзею хамут?

**МЯДЗЕЛ. У вёсцы Памошша абрабавалі дом. Узялі 500 долараў ЗША і паўтара мільёна рублёў.**

Ці то злодзей палічыў гэту суму недастатковай, ці то быў надта гаспадарлівы, але прыхапіў з двара яшчэ і каністры, наждак, хамут.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**



Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёна: Маладзечна - 01773, Вілейка - 01771, Смаргонь - 01592, Ашмяны - 01593, Валожын - 01772, Мядзел - 01797, Астравец - 01591, Мінск - 017(2)

Рэгіянальная газета

Заснавальнікі: Аляксандр МАНЦЭВІЧ, Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ, Ніна МАНЦЭВІЧ.
Пасведчанне № 227.
Галоўны рэдактар **Аляксандр МАНЦЭВІЧ**.

Інфармацыйна-рэкламнае штотыднёвае выданне для рэгіёна і рэспублікі. Выходзіць па пятніцах. Тыраж **8960 экз.** Індэкс **63212** (індывідуальная падпіска), **63369** (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях рэспублікі. У розніцу – цана свабодная. **№ 11 (360) 15.03.2002.** РУП «Друкарня «Перамога», Міністэрства інфармацыі РБ. 222310, Маладзечна, вул. Таўлая, 11. Зак. № . Падпісана ў друк у 13.00 14.03.2002

**Наш адрас: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.**
**ТЭЛЕФОНЫ/ФАКС: (01773) 6-96-67, 5-38-41, 5-07-99.**
**E-mail: region_news@irex.minsk.by**
**http://regionnews.promedia.minsk.by**

**ПРЫЁМ ДРОБНЫХ АБ'ЯЎ**
**Маладзечна:** Вялікі Гасцінец, 68а. **Тэл. 69667, 53841.**
**Вілейка:** вул. Вадап'янава, 23, капіравальны цэнтр «Парус». **Тэл. 53935, 55284.**
**Смаргонь:** вул. Танкістаў, 8, рэдакцыя «Новой газеты Сморгони». **Тэл. 33077, 34353.**

Разліковы рахунак №3012164030006 у філіяле ААТ «Белзнешэканамбанк» у Маладзечне, код 211, атрымальнік ТАА Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета»